„NIWA" TYGODNIK BIAŁORUSKI — CENA 60 gr.



# Ніва



№ 29 (73) БЕЛАСТОК, 21 ЛІПЕНЯ 1957 г. ГОД II

LEONARD PODHORSKI — OKOŁÓW

## BIAŁORUŚ

O, ty daleka, ty niezastąpiona,
zielona moja ziemio białoruska,
gdzieś tam, jak niegdyś, równin twoich łona
westchnieniem sennym wiatr wiosenny muska.

Gdzieś tam, nad modrą łąk zalanych tonią
w zadumie złotej iw szeregi drzemią,
skowronki drżąc srebrną ciszę dzwonią
i szpak polata nad zoraną ziemią.

Szeroko szumią sosny szmaragdowe,
w ogrodach miękko chwieją się jabłonie
i świerk w takt wiatru gnie wyniosłą głowę
i na tle niebios złotem szyszek płonie.

I cicho stoi biały dom piętrowy
z werandą szklaną i z drewnianym gankiem,
z uchylonymi drzwiami do połowy,
gdzie muchy zwykły grzać się wczesnym rankiem.

A ponad domem — błękit roześmiany
topole prują wierzchołkami trzema.
A jeszcze wyżej — snują się bociany
i błyska obłok... Ale mnie tam niema!

* * *

Pustkowia pól, błękitne bory,
na piaskach wiatrem siany mech,
przyziemnych okien wzrok nieskory
pod kapturami żytnich strzech.

W syczących świerszczem sianokosach
łykowych łapci lekki chód,
i dym nad nędzą jasnowłosych
pasterzy zadumanych trzód.

I wszystkie orki, siejby, żniwa,
ta cała ewangelia pól —
jak dłoń, jak dłoń nielitościwa
do ran rozwartych sypie sól.

Już świt, padając na powieki,
z bezsenną nocą zaczął bój...
Nad sercem krąży kraj daleki,
jak żal: daleki, bliski, mój.

*ЛЕАНАРД ПАДГОРСКІ - АКОЛАЎ — польскі паэт і літаратурны крытык, паходзіць з Міншчыны, дзе ён рос і дзе прайшло яго юнацтва.*

*Пражываючы ў Польшчы, Падгорскі апублікаваў колькі важных біяграфічных працаў аб Міцкевічу.*

*Глыбокая прывязанасць паэта да краю свайго маленства выявілася ў напісанні цэлага цыкла шчырых лірычных вершаў аб Беларусі. Вершы гэтыя ў 1925 годзе былі надрукаваныя ў Варшаве асобнаю кніжыцай п. з. «Białoruś» З гэтага зборнічка і памешчаныя тут вершы.*

*Памёр Падгорскі 5 студзеня г. г. у Варшаве*

## ПАДЧАС ЖНІВА



*На здымку: Раіса Кананьчук з кал. Міхалова — Беластоцкі павет, падчас працы ў полі.* *Фото І. Рыбінскі*

## У першых радах будаўнічых соцыялізма

Здаецца яшчэ не так даўно грымелі гарматы. Пад пераможнымі ўдарамі вызваленчай Савецкай Арміі і Войска Польскага, фашысты адступалі на захад.

У тыя гарачыя, ліпеньскія дні на частцы вызваленай зямлі натоўпы людзей у гарадах і вёсках з хваляваннем чыталі вялікія плакаты, вядучы ажыўленыя, гарачыя спрэчкі.

У маніфесце Польскага камітэта нацыянальнага вызвалення (ПКВН) гаварылася ясна і для ўсіх зразумела, што ад гэтага часу народ будзе поўнапраўным гаспадаром сваёй краіны, што Польшча з'яўляецца народнай рэспублікай.

І хоць навокал віднелі руіны і папялішчы, пакінутыя фашыстамі — народ уздыхнуў з палёгкай. Перад ім адкрываліся вялікія перспектывы — жыццё без прыгнёту, шчаслівая будучыня.

З асаблівым задавальненнем Ліпеньскі маніфест успрынялі беларусы, пражываючыя ў Польшчы. Для іх ён абазначаў вызваленне не толькі ад соцыяльнага але і нацыянальнага прыгнёту. Таму яны ахвярна ўключыліся ў будаўніцтва новага ладу ў Польшчы.

У першым, вельмі цяжкім перыядзе, калі навокал разбойнічалі фашысцкія ватагі, калі за актыўную падтрымку народнай улады пагражала смерць — беларусы са зброяй у руках, не шкадуючы сіл і жыцця цвёрда змагаліся за яе ўмацаванне. Шмат з сярод іх за гэтую справу аддалі найдаражэйшую ў свеце рэч — сваё жыццё.

Усюды там, дзе Партыя заклікала народ да ахвярнай і адданай працы, у першым шарэгу былі беларусы.

Сваё становішча да народнай улады і партыі беларусы заўсёды выказвалі ахвярнай працай. Іх не забракла ў кожнай галіне нашага жыцця. Асабліва на Беласточчыне ў кожным з большых прадпрыемстваў ёсць шмат перадавікоў соцыялістычнай працы беларускай нацыянальнасці.

Наша беларуская моладзь, дзякуючы народнай уладзе атрымала шырокія магчымасці здабываць веды ва ўсіх навучальных установах Польшчы.

Мінула 13 год. Перыяд гэта не доўгі. Аднак за гэтыя 13 год шмат беларускай моладзі, як кваліфікаваныя спецыялісты; лекары, інжынеры, аграномы, настаўнікі і г. д. засілілі рады новай, соцыялістычнай інтэлігенцыі.

Мінула 13 год. Там, дзе яшчэ нядаўна стаялі папялішчы зарослыя палыном, выраслі новыя гарады, прадпрыемствы, школы, бальніцы і клубы, бурліць новае маладое жыццё.

Сёння мы беларусы можам з гордасцю сказаць, што мы таксама ўнеслі свой не малы ўклад у справу пабудовы соцыялізма ў Польшчы.

Партыя і ўрад заўсёды гэта дацэньвалі і стваралі магчымасці, каб развівалася наша нацыянальнае жыццё. Дзесяткі беларускіх школ, аддзел Беларускай філалогіі ў Варшаўскім універсітэце, арганізацыя БГ-КТ «Ніва» дзесяткі гурткоў мастацкай самадзейнасці — усё гэта мы маем дзякуючы народнай уладзе, якой першым дакументам быў памятны Ліпеньскі маніфест у 1944 годзе.

Але яшчэ не ўсё зроблена. Перад намі, яшчэ шмат цяжкасцей, якія трэба будзе перамагчы дзеля пабудовы соцыялізма ў нашай краіне.

У гэтай працы, так як і дагэтуль не забракне нас — беларусаў.

ШТОТЫДНЕВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА



# Беларускі фестываль

*(Ад нашага карэспандэнта)*

Не гледзячы на пахмурнае надвор'е і дождж, які пачаў імжэць з самай раніцы, Мінск — сталіца Беларусі ў дзень 30 чэрвеня быў па-свойму малады і святочны. Яго прыгожыя шырокія вуліцы, парадныя плошчы, запоўнілі тысячы святочна адзетых маладых, шчаслівых, жыццерадасных дзяўчат і хлапцоў, якія сюды прыехалі з усіх куткоў Беларусі на першы Усебеларускі фестываль моладзі.



*Удзельнікі фестывалю падчас парада.*



*Вясёлыя ўдзельнікі фестывалю з Маладзечанскай вобласці.*

Увесь горад патануў у чырвані сцягоў. Ад вакзала да Сталінградскай вуліцы, ад трактарнага завода да ўніверсітэцкага гарадка прыемна шалясцяць яны сваімі вогненымі крыламі. На маляўнічых транспарантах і плакатах гараць лозунгі: «Няхай жыве савецкі народ — будаўнік комунізма»! «Свету — мір — дружба — народам!»

Па тым, як упрыгожана сталіца Беларусі відаць, што да фестывалю рыхтавалася не толькі моладзь, але ўсе працоўныя.

Зрэшты не толькі моладзь выйшла на вуліцы святочнага Мінска, каб святкаваць сваё свята. Сярод парадных калонаў моладзі шмат старэйшых а то і зусім старэнькіх людзей святочна адзетых.

На круглай плошчы і вуліцах прылягаючых да яе, выстраіліся дэлегацыі сямі абласцей і горада Мінска для маршпарада. Ва ўсіх вясёлы, радасны, нейкі прыўзняты настрой. Нават дождж, які зараз пачаў ліць як з вядра не змог сапсаваць святочнай узнёсласці.

У 10 гадзін раніцы калоны рушылі на стадыён «Дынамо».

Урачысты паход адкрылі сцяганосцы.

Рослыя быццам таполі юнакі, апрануты ў нацыянальныя касцюмы няслі велізарныя шоўковыя палотнішчы дзяржаўных сцягоў СССР і ўсіх пятнаццаці саюзных рэспублік.

За імі, па шырокім праспекце імя Сталіна рушыла калона машын — 10 трактараў «Беларусь» і 25-тонны аўтамабіль - гігант, выпрадукаваныя моладдзю мінскага трактарнага і аўтамабільнага завода як падаркі Рэспубліканскаму Фестывалю са сэканомленага метала ў нерабочы час.

А гэта што такое?

Ах гэта славутая, тачанка чапаеўцаў, запрэжаная тройкай гарачых рысакоў. Калі глядзім на папаху, заліхвацкі твар з падкручанымі вусікамі, ды пругкую постаць з выцягнутай рукой по̄ т прыліпшага да рукаятак кулямётчыка — здаецца гэта сапраўды сам легендарны герой — Чапаеў удзельнічае ва ўсебеларускім фестывалю.

Пачынаецца праход дэлегатаў сямі абласцяў рэспублікі. Першымі йдуць удзельнікі фестывалю Брэсцкай вобласці.

Увагу прысутных прыцягвае інсцэніроўка на тэму «Слава героям Брэсцкай крэпасці». На машыне вольна праязджае ўмела зроблены макет гэтага бастыёна славы. На ім з вінтоўкамі, аўтаматамі і гранат̄і — воіны Савецкай Арміі.

Калона Віцебскай вобласці пераносіць гледача на шырокія прасторы калгасных палёў. Здаецца, што гэта не паток моладзі заліў вуліцу, але квітнеючае мора ільну пераліваецца з канца ў канец.

Гомельская калона праходзіць пад лозунгам: «Дагонім Амерыку».

Над галовамі юнакоў і дзяўчат плывуць агромныя макеты: банка з малаком, талерка з шынкай і каўбасамі, ваза з фруктамі. Далей віднеюць надпісы: «За 400 цэнтнераў малака», «За 100 цэнтнераў мяса».

Стадыён «Дынамо».

Трыбуны яго запоўнілі тысячы Мінчан і госці. Яны бурнымі апладысментамі вітаюць праходзячыя калоны ўдзельнікаў фестывалю.

З прывітаннем удзельнікаў фестывалю, выступае сакратар Цэнтральнага Камітэта КП Беларусі тав. Ц. Я. Кісялёў. Бурнай авацыяй сустракаюць прысутныя паведамленне аб тым, што на фестываль прыбылі прадстаўнікі моладзі з брацкіх савецкіх рэспублік і пасланцы Польшчы на чале з членам сакратарыята КЦ ЗМС тав. К. Помен.

Сакратар ЦК ЛКСМ Беларусі тав Г. А. Крыулін аб'яўляе Першы Усебеларускі Фестываль моладзі адкрытым. Пад гукі гімнаў БССР і Савецкага Саюза на машт падымаецца дзяржаўны



*Юныя спартсмены на парадзе.*

флаг БССР, загараецца факел фестывалю, увысь узлятаюць сотні галубоў. Высока ў неба падымаецца грамадны аэрастат, цягнучы за сабой вялікае пунсовае палотнішча з белым голубам і надпісам: «Усебеларускі фестываль моладзі».

Пасля адкрыцця фестывалю на стадыёне выступалі юныя гімнасты з таварыства «Працоўныя рэзервы». Дакладныя пластычныя рухі і перад гледачамі вырастае велізарная жывая кветка са стройных маладых целаў. Яна рухаецца — распускаецца, і вось яна расцвіла на ўсю красу.

Сонца пырснула яркімі праменнямі, асвятліўшы гэтае незабыўнае відовішча. З трыбун узрываецца гром неўціхаючых апладысментаў.

На стадыёне паяўляецца новы атрад спартсменаў. Пад зыкі вальса паявіўся цудоўны букет створаны чалавечымі целамі. Кожны рух гэтай групы, злітай у адзінае цэлае, прыносіць усё новае ўражанне. Яна нібы клумба з featuring разнастайнымі кветкамі, якія раскрываюцца і закрываюцца, нібы каскад хваль, якія то падымаюцца, то апускаюцца.

Велізарнае ўражанне пакінула свята беларускай моладзі.

Праз усе тры дні фестывалю, тэатры, клубы, дамы культуры, паркі адпачынку сталіцы Беларусі, былі аддаены ва ўладанне моладзі. Тут адбываліся выступленні шматлікіх, як-жа таленавітых, калектываў мастацкай самадзейнасці, якія спаборнічалі за ўдзел у VI Сусветным фестывалю моладзі і студэнтаў у Маскве.

Падчас фестывалю адбываліся сяброўскія вечары: вечар дружбы народаў, сустрэчы з вучонымі, былымі партызанамі, гутаркі перадавікоў, абмены вопытам.

Тры дні на плошчах, у скверах і парках гасціннай сталіцы Беларусі весялілася моладзь. Усебеларускі фестываль моладзі выліўся ў вялікае і радаснае свята юнацтва. Ён прайшоў пад знакам барацьбы за мір ва ўсім свеце, за далейшае ўмацаванне дружбы паміж народамі.

Усебеларускі фестываль — гэта доказ вялікай любві моладзі савецкай Беларусі да мірнага сужыцця з народамі ўсяго свету, да непарушнай волі пабудовы комунізма ў сваёй краіне.

З жалем прышлося расстацца з Мінскам, яго зялёнымі паркамі, бульварамі, скверкамі. Аднак ён застанецца назаўсёды ў памяці, так як застануцца ў памяці сустрэчы і задушэўныя гутаркі з простай, адкрытай, вясёлай і жыццерадаснай моладдзю Савецкай Беларусі.

В. БАРШЧЭЎСКІ



*...Цудоўны букет створаны чалавечымі целамі.*

 

# ЗУБРЫ

Закранутая мною тэма не будзе ані новай, ані спецыяльна цікавай. Не намагаюся тут абстайваць за сельскагаспадарчымі каапeратывамі, ані выступаць супраць іх. Хачу толькі напісаць аб вялікай крыўдзе і балючай праўдзе, якую не кожны сёння бачыць.

Я супрацьстаўляюся будаванню сельгаскаапeратываў такім спосабам, як будавана ў мінулых гадах. Людзі ішлі ў сельгаскаапeратыў пад прымусам, страхам, а часта і рэпрэсіяй.

Ці гэта ўсюды так было? Не! Былі і такія вёскі, дзе сяляне пазнаёміўшыся з ідэяй сельскай гаспадаркі, памеркаваўшы між сабой, добраахвотна злучалі ўвесь інвентар, зямлю і пачыналі гаспадарыць па-новаму. Бачылі ў гэтым лепшую і перавышаючую форму гаспадаркі.

Гэта не мая выдумка, ані пустая прапаганда, так у сапраўднасці было. Такім чынам у 1952 годзе паўстаў сельскагаспадарчы каапeратыў у Зубрах, Беластоцкі павет.

Сяляне доўга надумваліся, размяркоўвалі ці арганізаваць каапeратыў, ці не, у выніку чаго дайшлі да вывалу аднак, што супольна будзе лепш гаспадарыць. Да восені 1956 года ўсяляк бывала. Пачаткова нялёгка прыходзілася працаваць, але з года ў год было штораз лепш. На водшыбе вёскі пабудавана каапeратыўныя хлявы, свіран, млын, пасаджана 500 штук садавых дрэвак.

Узрастаў працадзень, а і колькасць членаў узрасла да 24.

Зубры не былі ані перадавым, ані апошнім каапeратывам. Людзі працавалі тут аддана, шчыра і бачылі вынікі сваёй працы.

Але вось надыйшоў бурлівы, кастрычнік. Партыя і ўрад сталі на пазіцыі поўнай свабоды калі разыходзіцца аб выбар формы гаспадарання. У каапeратывах закіпела. Тыя каапeратывы, якія паўсталі пад напорам, або якіх члены былі мала асвядомлены ў істоце калектыўнай гаспадаркі, схільныя — вельмі хутка, адзін па другім ліквідаваліся.

У кастрычніку і ў Зубрах сабраліся каапeратыўшчыкі, каб вырашыць што рабіць далей. Не было бурлівых спрэчак; крыку, плачу. Толькі некаторыя больш труслівыя пачалі застанаўляцца, ці не лепш было-б ліквідаваць каапeратыў, так як усюды ліквідуецца. Большасць аднак вырашыла, што ўсёроўна, хай дзеецца што хоча, а каапeратыва ліквідаваць не будуць, будуць у далейшым працаваць супольна, бо супольная гаспадарка дае больш карысці.

*

Зубры — вёска вялікая, налічваецца тут 100 гаспадароў. Людзі цёмныя, неўсвядомленыя пачалі падымаць галовы. Бо як-жа, ўсюды ліквідуюцца каапeратывы, а ў Зубрах не? Гэта немагчыма, трэба-ж дапамагчы ліквідаваць іх.

Пачалося ад агітацыі. Цягнулі каапeратыўшчыкаў на гарэлку, імкнуліся пераканаць, а нават палохалі карамі, але гэта не памагло. Каапeратыўшчыкі спакойна і разважліва адкідалі ўсе аргументы, цвёрда абстайваючы пры сваім. У вёсцы пачало кіпець.

Праціўнікі каапeратыва радзілі як разбіць калектыўную гаспадарку. Аднойчы ноччу, найбольш актыўным каапeратыўшчыкам падкінута ананімныя лісты з такімі страшэннымі пагрозамі, якіх толькі можна спадзявацца з боку ворагаў і адсталых людзей. Каапeратыўшчыкі чакалі дапамогі ад улад, думалі, што нехта дапаможа ім справіцца з праціўнікамі.

Прыйшла дапамога. Аднойчы з Прэзідыума ПРН у Беластоку прыехаў служачы (прозвішча вядомае аўтару), пагласкаў людзей па плячу, нагаварыў колькі змог аб соцыялізме, аб тым, каб цесна трымацца каапeратыўнай гаспадаркі і Бог ведае аб чым яшчэ там, а потым пайшоў гутарыць з паасобнікамі і аказваецца, пацяшаў іх, што каапeратыў і так разрушыцца і што сяляне могуць забіраць свае палоскі.

Ці пасля гэтага магло быць спакойна ў вёсцы? Не!

Ізноў закіпела. Каапeратыўшчыкі аднак спакойна пераносілі здзекі, пагрозы і застрашэнні — гэта былі толькі словы, але калі яны не дапамаглі — тады падбухтоўшчыкі пайшлі далей.

Ноччу загарэлася клуня Андрэя Броўчыка. Чырвань пажару доўга не выгасала з сэрцаў і дум каапeратыўшчыкаў. Брыгадзіру Аляксандру Цыунчыку ноччу выбілі акно каменнем, і напалохалі жонку з дзяцьмі. Старшыні каапeратыва Аляксандру Макарэвічу нехта пабіў керат. Мала таго, праціўнікі каапeратыва ў Зубрах пачалі пераступаць у лесе сялян іншых вёсак, якія вазілі малоць у каапeратыўны млын.

— Што вы, мы хочам раскінуць каапeратыў, а вы да калгаснікаў збожжа малоць вязеце? — Не пусцім!

Праходзіў час. Бязсільныя ворагі бесіліся са злосці. Каапeратыўшчыкі начамі сцераглі сваю маёмасць, чакалі да вясны. Калі міма сабатажу, выйшлі ў поле на супольную працу — праціўнікі ледзь дух устрымоўвалі са злосці.

Ізноў вырашылі «дзейнічаць». Нейкі вырадак аднойчы ноччу знішчыў сякерай каля 42 дрэвак прыгожага, маладога саду, іншы, а мо' нават і той самы зрэзаў касою ўсю расаду бручкі, падрыхтаваную на засаджэнне двух гектараў зямлі.

Каапeратыўшчыкі заціскаюць зубы і нічога не гавораць. Гавораць за іх зрэзаныя і пасыхаючыя дрэвы саду, якія здэцца клічуць і дамагаюцца, каб судзіць вінаватых злачынцаў.

Не хачу пісаць і каментаваць тое, аб чым гавораць каапeратыўшчыкі, якія зрэшты баяцца падаваць свае прозвішчы, баяцца нават і расказваць, бо праціўнікі паказалі, што ўмеюць і да чаго яны здольны, але ці на гэтым канец?

Калі ў Зубрах паўстаў каапeратыў — то прыязджалі туды машыны адна за другой, радзілі, дапамагалі, але цяпер, калі Зубры з'яўляюцца адным з нямногіх каапeратываў, існуючых на Беласточчыне і калі цяпер сапраўды патрэбная тут дапамога, парады — тады пакідаецца людзей самых сабе.

Быць-жа вам усім актывістам у скуры гэтых пакрыўджаных каапeратыўшчыкаў з Зуброў, як-бы вы тады сябе адчувалі.

Ілья Цыунчык 70-цігадовы дзядуль працуе даглядчыкам жывёлы. З радасцю паказвае мне каапeратыўны дабытак.

— Больш чым 50 гадоў я гаспадарыў сам, але больш ужо не хачу, у каапeратыве куды лепш жывецца. Я ўжо стары, але не магу зразумець, чаму гэта нам так перашкаджаюць працаваць калектыўна?

Што-ж яшчэ сказаць на заканчэнне артыкула? Пакуль закончу — хачу яшчэ некаторым сялянам з Зуброў прыпомніць адну рэч.

У вашай вёсцы пры народнай уладзе паявілася электрычнасць і загудзелі радыёпрыёмнікі, дагэтуль трох хлапцоў пакончылі вышэйшыя навучальныя ўстановы і з'яўляюцца інжынерамі, некалькі іншых юнакоў яшчэ навучаюцца, шмат ізноў вучацца ў сярэдніх школах, або працуюць.

24 свядомых гаспадароў вашай вёскі пачалі працаваць па-новаму, выбралі сабе лепшую форму гаспадаркі ад тае, якая існавала тут ад вякоў. А, каб так гэты здаровы мужыцкі розум падумаў над усім?

На заканчэнне замест каментарыя хачу толькі падказаць Прэзідыуму ПРН, КП ПЗПР і Беластоцкай камендатуры міліцыі, каб зацікавіліся гэтымі горкімі і пякучымі справамі, аб якіх я пішу ў артыкуле. Нельга пакідаць каапeратыўшчыкаў на папас ворагу.

Трэба памагчы каапeратыўшчыкам у Зубрах, каб яны смела маглі крочыць па выбранай дарозе.

А. ОМІЛЬЯНОВІЧ.

## Памяці Янкі Купалы

5.VII. г. г. у Радашковічах — на радзіме Янкі Купалы — на адкрыццё помніка народнаму песняру беларускай зямлі сабраліся сотні рабочых, калгаснікаў школьнікаў.

Мітынг працоўных адкрыў старшыня Маладзечанскага аблвыканкома тав. Барысаў. З помніка спалае белае пакрывала. На пастаменце — бюст паэта работы скульптараў Б. і М. Роберман. Да помніка ўскладаюцца вянкі і букеты жывых кветак.

На мітынгу выступілі: сакратар Маладзечанскага абкома партыі тав. Прытыцкі, міністр культуры БССБ тав. Кісялёў, сталяр райпромкамбіната тав. Нядзвецкі, паэт Р. Сабаленка, член сельгасарцелі імя Янкі Купалы тав. Тарасік, латышскі паэт Юлій Ванаг, чувашскі паэт Александр Алга, ленінградскі пісьменнік Павел Кабзарэўскі, Канстанцыя Буйла і іншыя.

* * *

ТАШКЕНТ. Літаратурная грамадскасць сталіцы Узбекістана шырока адзначыла 75-годдзе з дня нараджэння выдатнага беларускага паэта Янкі Купалы.

Ва ўзбекскай дзяржаўнай бібліятэцы імя Навaі адкрыта выстаўка, прысвечаная творчасці паэта. Тут экспануюцца шматлікія кнігі, выдадзеныя на мовах народаў Совецкага Саюза і ў тым ліку на узбекскай. У клубах і парках праходзяць лекцыі і гутаркі аб жыцці і творчасці паэта. Ташкенцкі тэлевізійны цэнтр арганізаваў спецыяльную перадачу, прысвечаную Янку Купалу.

Алесь Омільяновіч

## За народную ўладу

Быў ліпень 1944 год. Стаяла прыгожае надвор'е. На палях даспявала ніва. Лес заносіўся пахам смалы і кветак. Прырода вабіла і зачароўвала сваім харaством.

У гэты час людзі не бачылі тае асалоды жыцця і хараства прыроды, якім заўсёды надарае іх лета. Людзі вялі страшэнную вайну, падымаліся на бой і разню, якой вякі не помнілі. Ад усходу йшла гігантычная совецкая афензіва. Браненосныя ваенныя часці совецкіх войск гналі перад сабой арды гітлераўцаў.

Лінія фронта, якую вызначалі гарэўшыя вёскі і гарады і навальніцы артылерыйскага агню, штораз больш набліжаліся да перамучанай ярмом няволі беластоцкай зямлі.

З Гродна і Ваўкавыска ў кірунку Беласточчыны, па шасэ і дарогах праходзячых лясамі, днём і ноччу цягнуліся калоны «непераможнай» гітлераўскай арміі. Пяхота, артылерыя, танкі — усё адступала на захад.

У лясах разцягнуўшыхся на ўсход ад Беластока дзейнічала пяць партызанскіх атрадаў з брыгады ім. Кастуся Каліноўскага пад камандай падпалкоўніка Вайцехоўскага. Немцы абставілі сваім войскам рэйкі вядучыя на Гродна і Ваўкавыск.

Не было магчымасцей узрываць транспарты, таму, што не хапала выбуховага рэчыва. У вёсках стаялі шматлікія нямецкія часці, блакіруючыя дзейнічанне партызан у аколіцы. Час-ад-часу арганізавана толькі засады.

На пачатку ліпеня 1944 г. партызанскі атрад імя К. Каліноўскага (у аколіцы Беластока дзейнічала брыгада імя К. Каліноўскага і атрад гэтай-жа назвы, уваходзячы ў састаў яе) пад камандай Аляксея Карпюка са Страшава, пасля выканання шматлікіх баявых выступленняў: зрываў транспарту, сутычак з немцамі на шляху Галынка — Валілы і Пілатоўшчына — Крынкі, дзе застрэлена больш 100 немцаў, затрымаўся ў перацёскіх лясах.

Начамі камандзір Карпюк рассылаў патрулі ў далёкія вёскі, якіх задачай было даставіць атраду самыя новыя весткі аб сітуацыі. Усе зводкі былі аднолькавыя — немцы адступаюць і забіраюць за сабой людзей, быдла і іншую маёмасць. Каманда атрада вырашыла сарганізаваць у лясах лагеры для насельніцтва, і гэткім чынам абараніць яго перад гібелю.

14 ліпеня 1944 года, пасля поўдня, партызанскі патруль, які пайшоў у разведку ў аколіцы вёскі Каралёвы Мост вярнуўся ў атрад з данясеннем, што па напалеонскім тракце, што нейкі час праязджаюць шматлікія калоны немцаў і гоняць з сабой насельніцтва.



*Надзея Храноўская.*

Атрад сабраўся на кароценькую нараду. Вырашана зрабіць засаду на немцаў. Камандзір Карпюк падабраў сабе 25-асабовую групу партызанаў. Яны прашмыгнулі паміж вёскамі Баркі і Навасёлы і падыйшлі пад Каралёвы Мост. Тракт вёў цераз лес па даволі высокай гары. Месца на засаду было вельмі добрае. Карпюк падзяліў атрад на тры групы, назначыў кожнай з іх месца, узяў з сабой Змітра Карповіча (начальнік штаба атрада). Аляксея Яроцкага і Змітра Лук'янава — званага «Мішкай Кулямётчыкам», заняў самую пярэднюю пазіцыю і засеў караўліць.



*Сцяпан Храноўскі.*

Партызаны вырашылі жыўцам злавіць нямецкую разведку, якая пераважна ішла паперад адступаючых калонаў.

Усе ў напружанні чакалі. Не прайшло 10 мінут, як з усходу з-за паварота выехала на конях трох гітлераўцаў. Была гэта паасобная разведка. Калі немцы параўняліся з патрулям седзячым у кустах — тады Карпюк і трох яго таварышаў, як «з-пад зямлі выраслі» перад немцамі.

— «Гандэ гох!» — крыкнуў па-нямецку Карпюк.

Немцы памалу пачалі паднімаць рукі ўгору.

Нечакана з-за паварота пасыпаўся залп. За разведкай ішла калона немцаў.

З кустоў застрачылі па іх партызаны. Конная разведка карыстаючыся часовай суматохай намагалася ўцячы, Карповіч, Яроцкі і «Мішка Кулямётчык» застрачылі па іх.

Двух немцаў цяжка нырнула ў пясок тракта, а трэці ўпаўшы палез у кусты.

Нягледзячы на сільны агонь з абодвух бакоў «Мішка Кулямётчык» ускочыў як кот на тракт, каб адняць ад забітых немцаў зброю. Немцаў было



 




## Чаму так мала



— Чаму ў гэтым месяцы так мала атрымліваю?
— А ў гэтым месяцы вас вашы дзеці знайшлі.

(Вожык)

## Трэба пачакаць

— Якога роду ёсць яйцо? — пытае настаўнік вучня.

— Гэта можна пазнаць тады, як ужо штосьці з яйца выклюецца — гаворыць вучань.

# Дзеду Марціну ва ўласныя рукі

*На скольні я лянівы на адпісванне лістаў да сваякоў, але Табе Дзед Марцін адпісаць павінен.*

*Прызнаюся адкрыта, ліст Твой Дзед Марцін мяне забеспакоіў. Справа ў тым, што ў нашых установах закаранілася вялікае кумоўства. Там сваякі на сваяках сядзяць і сваякамі паганяюць.*

*Напрыклад: у аўгустоўскім ПЗГС-е чужы чалавек не дастанецца на работу, а сваякі кааперацыю адкрываюць і адказнасці не баяцца, спадзяюцца, што другія сваякі іх выручаць.*

*Да гэтага часу наша рэдакцыя «Ніва», сваяцкімі адносінамі не была звязана. Цяпер Ты, Дзед Марцін з'явіўся і людзі могуць гаварыць, што Дзед Марцін піша, Дзядзька Лявонь падпісваецца, бабка Маланння чытае і вось наяўнае кумоўства.*

*З другога боку, Твой ліст мяне цешыць, калі Дзед з бабкай знайшліся — дык можа мы рэпку выцягнем, а наша рэпка глыбока сядзіць у зямлі і выцягнуць яе на сонейка — трэба патрудзіцца.*

*За ліст я шчыра дзякую і з Тваімі думкамі, Дзед Марцін, я лічуся.*

*Ведай, што я не з'яўляюся членам Саюза сялянскай моладзі, дзе нашы дзеці адганяюць ад сябе думку старэйшых, як карова хвастом мухі.*

*Згаджаюся з Табою, што з польска - беларускай гутаркі можна напісаць такі фельетон, што чытачы са смеху па зямлі будуць качацца. Твае заўвагі, што гумар можа быць не толькі ў змесце, але і форме — слушныя і, калі надарыцца зручны момант — я гэта выкарыстаю.*

*Хочацца яшчэ сказаць, што нашыя беларусы — гэта людзі працалюбівыя, вясёлыя, з вогненай іскрай, сярод каторых скрыты горы талентаў і абавязкам нашай «Нівы» з'яўляецца: дапамагчы выйсці на верх народным талентам.*

*Пішаш яшчэ Дзед Марцін, што мае гутаркі падабаюцца Табе і другім чытачам — гэта мяне вельмі цешыць і пастараюся карыстаючыся Тваімі парадамі зрабіць іх яшчэ больш цікавымі.*

Дзядзька Лявонь

Янка Купала

## Асёл і яго цень

Асёл, убачыўшы ў вадзе
У крынічнай свой асліны цень,
Здзівіўся, стаў, далей не йдзе,
Глядзіць ды думае, як пень.



Які тут чорт намаляваў
Мяне інакшым, як я ёсць!
Такія вушы падаваў,
Так пакрывіў на спіне косць!

І, каб сябе не аглядаць
Ды разагнаць сваю нуду,
Ён капытом давай мяшаць
З граззёю чыстую ваду.

## Ці ёсць нешта горшае?



*— Падумай толькі сабе мілая мая, што я маю выйсці замуж за гэтага старога, грубага і аблезлага чалавека.*

*Ціж ты можаш выбразіць сабе нешта горшае?*

*— Чаму-ж не магу — ён-жа можа яшчэ раздумацца...*

## Антыкварыят — Новасці



Без слоў

Р.

### Прыказкі і прымаўкі

1. Чужога добрага ні гань, а сваго ліхога ні хвалі.
2. Ганчар у чэрапку есці варыць.
3. Усякі горне не ад сябе, а к сабе.
4. Гні галінку пакуль маладзенька.

## Вясельная




*Ой, скарэй-бы
Вячора дождаці:
Пойдуць людзі
Дзяўчыну сватаці*

*Пойдуць людзі
Дзяўчыну сватаці,
А мы пойдзем
Пад акно слухаці*

*А мы пойдзем
Пад акно слухаці,
Ды што будзе
Дзяўчына казаці?*

*Дзеўка ходзіць
Ды ўсё пахаджае,
Белы ручкі
На сэрца складае*

*«Маці, маці,
Парадніца ў хаце,
Парадзь, маці,
Што свату казаці.*

*Парадзь, маці,
Што свату казаці:
Ці йсці замуж,
Ці з год пагуляці?»*

## Летні рэбус




*Гэты рэбус заключае ў сабе актуальную, летнюю беларускую пагаворку.*

*Сярод тых чытачоў, якія да 5 жніўня прышлюць правільныя развязкі будзе разлясавана 10 кніжных узнагарод. Адказы просім прысылаць на паасобных картачках з дакладным адрасам.*

Р.

### Развязка адгаданкі з 25 нумара „Нівы"

| | | |
|---|---|---|
| 6<br>9 3 8<br>4<br>2 1<br>5 7 | 8<br>10 1 6<br>5<br>2 3<br>4 7 | 8<br>4 2 10<br>3<br>5 1<br>9 7 |
| 10 | 9 | 6 |
| 3<br>8 7 5<br>9<br>1 2<br>4 6 | 10<br>7 2 3<br>8<br>1 4<br>5 6 | 7<br>5 1 8<br>9<br>2 3<br>10 6 |
| 10 | 9 | 4 |
| 9<br>4 1 6<br>10<br>3 2<br>8 7 | 8<br>1 3 7<br>10<br>5 2<br>9 6 | 9<br>4 3 2<br>8<br>6 5<br>7 10 |
| 5 | 4 | 1 |

Кніжныя ўзнагароды атрымалі:

1. Надзя Апалінская — Трасцянка, Гайнаўскі павет.
2. Надзя Бруй — Бельск - Падляскі.
3. Сяргей Дружба — Крывятычы, Бельскага павета
4. Янка Вэнцлеўскі Стрыексёнжэ, Лодскае ваяводства.
5. Яўгеня Казлоўская Бельск - Падляскі.
6. Алесь Гегель — Зубры — Беластоцкі павет.
7. Янка Бакун — Ольштын.
8. Алесь Трахімчук — Варшава.
9. Зося Левандоўская — Ополе.
10. Анупры Хмялеўскі — Беласток.

Узнагароды высылаем поштай.

Галаўны рэдактар ГЕОРГІ ВАЛКАВЫЦКІ

„NIWA" Organ Białoruskiego Towarzystwa Społeczno - Kulturalnego w Białymstoku. Adres redakcji: Białystok, ul. Manifestu Lipcowego 25, tel. 25-89. Warunki prenumeraty: miesięczna — 2.40 zł, kwartalna — 7.20 zł, półroczna 14.40, roczna 28.80. Prenumeratę przyjmują wszystkie urzędy pocztowe i listonosze. Wydawnictwo: RSW „Prasa". Prenumeratę ze zleceniem wysyłki zagranicę przyjmuje PKWZ „Ruch" Warszawa. Należność wpłacać na konto PKO I-6-100024 Warszawa. Cena prenumeraty z wysyłką zagranicę wynosi: kwartalnie 10,15 zł, półrocznie 20,30 zł, rocznie 40,60 zł. Druk Białostockie Zakłady Graficzne. Nakład 5.205 T-12